ISSN 0132-5957

# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 6 (чэрвень) 2015

## У нумары:






Малюнак Міколы ПІРГЕЛЯ.



# Паляванне і выжыванне

Міні-комікс
Аляксандра
КАРШАКЕВІЧА.




## Адпачынак з агеньчыкам







Малюнкі Алега ПАПОВА.

Віктар ЛОЎГАЧ

# Байкі ў прозе

## Калёсы і Воз

Калёсы ўвесь час папракалі Воз:

— Мы круцімся, вёрсты адлічваем, а ты — наш вечны цяжар. Дакуль такое цярпець?

Воз згніў і разваліўся. І Калёсы сталі нікому не патрэбныя.

## І Вецер не вольны

Вецер лічыў, што на гэтым свеце адзін толькі вольны. Ніхто над ім не мае сілы.

Але з'явіўся Вятрак — і Вецер вымушаны быў на яго працаваць.

Мы ўсе ў чымсьці ад некага залежым, знаходзімся пад нечыяй уладай.



## Воўчая любоў

Сустрэўшы на лясной сцежцы Зайца, Воўк ажно праслязіўся:

— Як жа я рады табе, касы! А як цябе люблю!

І тут жа з'еў Зайца.

Такая вось воўчая любоў.

## Дзверы і Столь

Дзверы часта са зняважай казалі Столі:

— Гаспадар не звяртае на цябе ніякай увагі, а нам, згінаючыся, заўжды адбівае паклоны.

— Але калі кладзецца спаць, то глядзіць на мяне, — заўважала Столь.

Да кожнага — свая ўвага, кожнаму — свая павага.

## Чыя работа?

— Не печ, а лялька, — радаваўся гаспадар хаты. — Якія смачныя стравы ў ёй атрымліваюцца, а як грэе!

— Мая работа, — ганарылася Кельма. — Я тут штодзень увіхалася.

Між тым, у руках Печніка Кельма была ўсяго інструментам.

## Рыба ведае

Лёска пастаянна гаварыла:

— Я — самая галоўная на вудзе! Без мяне нікога не зловіш.

І маўчала пра тое, што толькі на Кручок з насадкаю бярэцца рыба.



## Ярмо і Вол

Ярмо дзіву давалася:

— Вол такі вялікі, а без мяне не пацягне воз.

Гаспадар прадаў Вала, а Ярмо гніе пад хлявом.

## Розная пашана

Неяк, убачыўшы Салаўя, Певень з усмешкай запытаў у яго:

— І за што толькі такую малечу, як ты, шануюць людзі? Варта мне адзін раз клюнуць — і няма.

За песні шануюць Салаўя, а не за рост.

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

---

Міхась МІРАНОВІЧ

# МІРАНІЗМЫ

## КАПЕШКІ

Мінулае нельга
Згадаць без усмешкі,
І лета вясковае
Ты ўспамінаеш:
Калі днём на пожні
Складаеш капешкі,
А вечарам з дзеўкаю
Іх разбіваеш.

## РАМОНКІ



— Вы мне, дзядзька,
Адкажыце, —
Агранома
Стрэў Сымонка. —
Гэта ў вас
Рамонкі ў жыце
Ці, мо, жыта —
У рамонках?

## ЧЫМ ЖЫВЯЦЦА КАМАРЫ?

Селі з вудамі
Па-над ракой сябры,
І спытаў Пятрусь
Старэйшага — Міхалку:
— Чым жа жывяцца,
Цікава, камары,
Калі я, бывае,
Прапушчу рыбалку?



*г. Віцебск.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



# Дзень памяці ахвяр Бахуса

*Фельетон*

Якіх толькі свят, знамянальных дат не адзначаем мы штогод! І ўсе яны патрэбныя. Лічу, што неабходна абавязкова вылучыць яшчэ адзін надзвычай важны дзень – Дзень памяці ахвяр Бахуса.

Упэўнены, што маю прапанову многія падтрымаюць. Па прыклады далёка не пайду. Вось быў у мяне сябрук Мікола, разам працавалі на мэблевай фабрыцы. Абодва мы – хлопцы мяккахарактарныя, спагадлівыя. Калі хто прасіў вынесці з цэха дошак або брускоў, ніколі не адмаўлялі. Таму ў канцы змены, як і належыць, па пляшцы-другой віна выпівалі. Карацей кажучы, ніколі не прасыхалі! У рэшце рэшт дабрыня наша нам жа бокам вылезла: мяне з фабрыкі звольнілі, а Мікола нават да пенсіі не дажыў... А ўсё яны, гарэлка ды віно праклятыя, вінаватыя ў гэтым! Хіба мы з Міколам не іх ахвяры?..

Мой сусед Валодзька Мармузевіч нават начальнікам канторы быў. Няблага, кажуць, кіраваў, ды вельмі любіў пасля працоўнага дня зняць стрэс. Неўзабаве і самога знялі... з пасады, а праз год наогул яго не стала.

Пайшоў у лепшы свет і мой зямляк Антон Нупрэйчыкаў. Той таксама кожны дзень «квасіў». Характар, праўда, быў у яго паскудны: выпіўшы, Антон заўсёды пускаў у ход кулакі. Таму пасля таго, як аднойчы захлынуўся ад гарэлкі, жонка надта не бедавала. Але ж многія аднавяскоўцы шкадавалі, бо за шклянку віна ці самагонкі Антон ахвотна дапамагаў і прысядзібныя ўчасткі апрацоўваць, і іншыя гаспадарчыя работы выконваць.

Сярод такіх ахвяр – і другі мой сусед Руслан Пеўнеў. Залатыя рукі меў чалавек! Нялёгка яму даводзілася: па стану здароўя нельга было чарку браць, але ж за працу кожны стараўся наліць. Працаваў Руслан слесарам-сантэхнікам.

А колькі небарак у нецвярозым стане згарэла і працягваюць гінуць ва ўласных хатах пры пажарах! А колькі чалавек развіталіся з жыццём падчас п'яных разборак з жонкамі ды сябрукамі! Пералік ахвяр Бахуса можна працягваць бясконца. Ён патапіў у чарцы больш людзей, чым іх загінула ў акіяне...

Вось я і прапаную ўвесці ва ўжытак Дзень памяці ахвяр гэтага крыважэрнага бога. Давайце ўспомнім пайменна ўсіх, хто аддаў яму душу. Няхай кожны чалавек, які жлукціць спіртное, але пакуль яшчэ жывы, ведае, што яго імя застанецца ў гісторыі. Праўда, у асобным спісе – п'яніц і алкаголікаў.



**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

**Андрэй СІДАРЭЙКА**



# Ці ёсць зялёныя чалавечкі?

**Быль**

– А раскажы, Адась, як вы з Ігнатам на рыбалку мінулым летам хадзілі, – папрасіў Патап.

Некалькі мужчын сядзелі познім летнім вечарам на лавачцы каля хаты.

– Дык я ж апавядаў, і не раз, – адмахнуўся той. – Гэтая гісторыя даўно быллём парасла.

– Усё адно, цікава было б паслухаць зноў, – падтрымаў просьбу таварыша Саўка.

– Ну, так і быць, раскажу. Пайшлі мы тады на рачулку, што каля Дзям'янавага лесу. Закінулі вуды, чакаем. А каб рыбачыць было весялей, прыхапілі з сабой бутэльку. Сядзім, адпачываем... Праўда, не клюе.

– Што, так нічога і не злавілі? – пацікавіўся Рыгор.

– Ты лепш слухай, не перабівай, – незадаволена сказаў Адась. – На кручку – пуста, у бутэльцы – апошняя кропля. Тут Ігнат і прапанаваў: «А давай у лес сходзім. Карасёў не налавілі, дык хоць грыбоў назбіраем». І сапраўды: гадзіну пахадзілі – амаль па вядры белых. Ужо дадомуззбіраліся, ды па дарозе набрылі на паляну. Глядзім – нейкая талерка вялізная стаіць. НЛА, ні даць ні ўзяць! У нас душа ў пятцы, валасы дыбам...

Вернісаж

Малюе
Аляксандр
КАРШАКЕВІЧ










– Ты нас на мякіне не ашукаеш, – недаверліва адазваўся Апанас.

– Калі не хочаш – не слухай, а іншым не перашкаджай. Дык вось, з яе выйшлі тры дзіўныя зялёныя чалавечкі і накіраваліся да нас. Давай да сябе ў госці клікаць. У гэты аб'ект, значыць.

– Што, так па-нашаму і запрасілі? – не паверыў Патап.

– Цяжка растлумачыць, на якой мове, – адказаў Адась. – Быццам і не на нашай, а ўсё зразумела. Так шчыра прасілі, што мы не ўтрывалі, пайшлі.

– І як там? – пацікавіўся Саўка.

– Прыгожа ўсё. Як у старшыні ў кабінеце. Частаваць нас пачалі, стравы ўсе – заморскія. Ніколі ў жыцці такіх не бачыў.

– Дык адкуль яны прыляцелі? – перабіў апавядальніка Рыгор. – З Месяца ці з Марса?

– А я, думаеш, ведаю? – абурыўся Адась. – Калі было цікавіцца. Не думалі мы пра гэта.

– Можа, і гарэлка ў іх была свая? – запытаўся Апанас.

– Але, нейкую ўдкасць дасталі. Таксама зялёную. Пілі мы яе, пілі, а яна ўсё не заканчвалася...

– Вось бы так і самагонка ніколі не пераводзілася, – выдыхнуў Саўка.

– Колькі мы там прабылі – не ведаем, – працягваў апавядальнік. – Скончылася тым, што яны прапанавалі: «А паляцелі з намі! Што вам тут рабіць?» Мы, вядома, спужаліся. Думаем, хопіць гасцяваць. Нам ісці, маўляў, патрэбна. Жонкі, дзеці чакаюць.

– А яны? – акругліў вочы Саўка.

– Што яны? І слухаць не хочуць. Кажуць, будзем там у іх важнымі персонамі. Ну, як аграном наш, не менш. Розных зямлян бачылі, але такіх, як мы, – упершыню.

– Ага, выдумляй, – усміхнуўся Рыгор. – І чым жа вы ім гэтак спадабаліся?

*Працяг на стар. 4.*




# З 65-годдзем

Аляксея Ануфрыевіча ДУДАРАВА, вядомага пісьменніка, сцэнарыста, мэтра беларускай драматургіі. У яго творах арганічна спалучаюцца лірызм і гумар, этычны пошук і традыцыі лубка, кепікі і чорны гумар... Шырокай публіцы аўтар вядомы перш за ўсё як сцэнарыст фільма «Белыя росы», дзе шмат вясёлага і сумнага, а многія фразы са стужкі сталі крылатымі. Між тым, з любімым «Вожыкам» А. Дудараў сябруе ажно з 1965 года!

Жадаем Аляксею Ануфрыевічу жыццёвага і творчага даўгалецця, аптымізму, вясёлага настрою.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.




Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ.

Заканчэнне. Пачатак на стар. 2.

– Мы і самі не паверылі. Кажам, пайшлі з намі ў вёску, там такіх шмат. А яны: «Не. Нам патрэбны вы. Рэдкія экзэмпляры!» Маўляў, адказныя вельмі. Цэлы дзень на паплавок глядзелі, з месца не сыходзілі. Мы не разгубіліся: «А куды ж пойдзеш? Дома – агарод, дровы, а тут – прырода, раздолле...»

– А яны? – Саўку, відаць, вельмі захапіла гісторыя Адася.

– Не вераць нам. Прасілі іх, прасілі – ніяк. Думалі, давядзецца ляцець. Але тут заўважылі невялікі выхад ды як далі драпака. Адкуль толькі хапіла духу? Выбеглі з лесу – і ўсё. Як адрэзала. Што далей было, не памятаем.

– Як гэта? – здзівіўся Патап.

– А так. Апрытомнелі толькі наступнай раніцай каля рачулкі. Туды жонкі нашы прыйшлі, разбудзілі.

– Ха-ха-ха, – засмяяўся Рыгор. – Дык гэта вам усё прыснілася!

– Хіба дваім магло прысніцца? – не пагадзіўся Адась.

– Вось я гэты аповед чую не першы раз, а цікава, – зазначыў Саўка. – Слухай, Адась, а чаму вы з Ігнатам усё ж пабаяліся ляцець з прышэльцамі?

– Што б я там рабіў? Ды без Марыліных дранікаў з салам і яешняй.

Адась усміхнуўся і паглядзеў на неба. На ім з'явіліся зоркі і месяц.

– А так, канечне, хадзілі б зараз з Ігнатам вунь там і назіралі за вамі звысоку. Але на Зямлі весялей.

– Вось заўтра ў Ігната запытаем, як было на самай справе, – пажартаваў Саўка.

– Калі ласка, – пагадзіўся Адась.

І так сябрам захацелася даведацца, ці існуюць зялёныя чалавечкі, што назаўтра яны ўсёй кампаніяй адправіліся на рыбалку. Ці сустрэлі іншапланецян – невядома. Вядома толькі, што добра бавілі час, бо наступнай раніцай на беразе іх пабудзілі жонкі...

*Рэчыцкі раён,*
*в. Каравацічы.*

# Іголкатэрапія



# Кватэрныя пытанні

*Міні-фельетон*



Кватэрнае пытанне даўно хвалюе людзей. Кожны імкнецца мець асабісты куток, пакой, кватэру ці цэлы дом. Для вельмі многіх гэта становіцца марай на ўсё жыццё, а некаторыя бяруць крэдыты, пазычаюць грошы, прадаюць маёмасць, абы толькі яна збылася.

На такіх летуценніках злодзеі часта зарабляюць неблагія грошы. Можна ўспомніць дом па вуліцы Прытыцкага ў Мінску. Цяжка ўявіць, як нацярпеліся людзі, якія ўдзельнічалі ў долевым будаўніцтве шматпавярховіка! Фундамент дома быў закладзены яшчэ ў 2007 годзе. Але адныя ўладальнікі кватэр атрымалі свае пакоі ў 2010 годзе, а іншыя – толькі ў 2014. Будаўніцтва некалькі разоў «замарожвалася». Супрацоўнікі ЗАТ «Террастройинвест» апраўдваліся тым, што не хапае грошай, і рознымі спосабамі імкнуліся выцягнуць іх з людзей. Кіраўніцтва таварыства, між тым, стварыла фіктыўную фірму, праз якую прадавала адны і тыя ж кватэры ў шматпавярховіку па некалькі разоў. Так яны зарабілі больш за 15 мільёнаў долараў, якія незваротна некуды зніклі. За краты ў выніку трапіла шэсць чалавек.

Зусім нядаўна кіраўнікоў адной сталічнай фірмы, якая займалася будаўніцтвам дома ў Першамайскім раёне, таксама затрымалі супрацоўнікі праваахоўных органаў. Махінатараў абвінавацілі ў двайных продажах кватэр грамадзянам. З дапамогай фіктыўных дагавораў тыя збылі дзесяць кватэр, зарабіўшы на гэтым звыш трох мільярдаў рублёў. Зараз злодзеі знаходзяцца ў турме. На іх маёмасць накладзены арышт.

Жылы дом, які пачалі будаваць яшчэ ў 2007 годзе, цяпер гатовы толькі на сем працэнтаў. Застаецца гадаць, калі людзі змогуць атрымаць свае кватэры. Спадзяёмся, што ім не спатрэбіцца чакаць столькі, як жыхарам шматпавярховіка на Прытыцкага.

Праўду гаварыў Воланд з рамана «Майстар і Маргарыта». Кватэрнае пытанне псуе людзей. І невядома, калі гэта скончыцца...



*Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.*




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Навіны з МУС: матай на вус…



## Як дома

**У Гродне мясцовая жыхарка здзейсніла некалькі крадзяжоў у інтэрнаце па вуліцы Томіна.**

Апынуўшыся ў будынку, раней судзімая злодзейка заходзіла ў адчыненыя пакоі. Калі там знаходзіліся людзі, пыталася наконт пражывання нібыта сваіх знаёмых і хуценька збягала. А ў памяшканнях, дзе нікога не было, паводзіла сябе як дома: перабірала рэчы і прысвойвала іх. Гэтак яна ўкрала залаты ланцужок, грошы, пашпарт, тры банкаўскія карткі, нават жаночыя балеткі і дзве пачкі цыгарэт.

Зараз узбуджана крымінальная справа. Мяркуем, што ў бліжэйшы час гэтая жыхарка Гродна будзе адчуваць сябе як дома ўжо за кратамі.




## «Аўтаваражба»

**Супрацоўнікі мазырскай міліцыі затрымалі двух мясцовых жыхароў, якія паквапіліся на маёмасць аўтаўладальнікаў.**

На працягу некалькіх апошніх месяцаў у Мазыры, пасёлку Сасновы і іншых месцах ноччу зламыснікі ўзломвалі машыны і выцягвалі з іх аўтамагнітолы, аўдыяапаратуру, інструменты і асабістыя рэчы ўладальнікаў. Усяго ў крымінальнай справе ўзгадваецца пятнаццаць крадзяжоў, але міліцыянеры лічаць, што іх колькасць можа ўзрасці.

Дарэчы, большую частку нарабаванага злодзеі вярнулі законным гаспадарам. Цяпер ім застаецца толькі здагадвацца, ці паўплывае гэты факт у судзе на вынясенне прыгавору.



## Лекавыя махінацыі

**Службовыя асобы бабруйскага РУП «Фармацыя» прысвоілі больш за паўмільярда рублёў.**

Тры супрацоўнікі прадпрыемства прымалі ад работнікаў медустаноў у Бабруйску і Бабруйскім раёне грошы ад продажу лекаў і іншых тавараў па дагаворах падраду. У дакументы ж уносілі ілжывыя звесткі, заніжаючы суму атрыманага прыбытку. Такім чынам у іх атрымалася завалодаць больш чым 586 мільёнамі рублёў.

Махінатары могуць трапіць у турму на тэрмін ад пяці да дванаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады і займацца падобнай дзейнасцю. Між тым, калі спатрэбіцца, там лекі ім будуць выдавацца бясплатна.

*Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, інфармацыйнага партала tut.by.*

## Летнія анекдоты

– Як захаваць футра летам?
– Пакласці ў ванну і заліць вадой. Моль не ўмее ныраць!



Хочаце ўлетку крыху падзарабіць? Праверце кішэні зімовай вопраткі!

– Заўсёды марыў пра тое, каб летам працаваць у паўночным паўшар'і, а зімой – у паўднёвым.
– Прабач, але прафесію пераганшчыка дзікіх качак яшчэ не вынайшлі.



Прыехалі з жонкай на дачу, каб забраць дзяцей. Першым насустрач нам выбег шчаслівы дзядуля.






Малюнак Алега ПАПОВА.

# Дыялогі

## Цяжкі чалавек

– Як мне з табой жыць? Ты вельмі цяжкі чалавек! – абураецца жонка.

– Гэта праўда! – ахвотна згаджаецца муж. – Учора ўзважыўся – ажно сто трыццаць кілаграмаў.




## Рыбацкі сакрэт

Размаўляюць сяброўкі.

– Заўтра пайду з мужам і суседам на рыбалку.

– Ты што, з глузду з'ехала? У такі мароз! Навошта?

– Хачу даведацца іх сакрэт: колькі яны выпіваюць, каб не прымерзнуць да лункі.

## Што лепш?

– Вадзімачка, – кажа бабуля, – хадзі да мяне, я дам табе «буську»!

– Не, бабуля, дай мне лепш цукерку! – адказвае ўнук.



**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў*

## Другі знаёмы

– Ало! З кім гэта я размаўляю? – чуецца з трубкі жаночы голас.

– А хто вам патрэбны? – цікавіцца мужчына.

– Ды так, адзін знаёмы...

– Ну, тады давайце знаёміцца! Буду вашым другім знаёмым.



## Трэці лішні

– Куды шлях трымаеш?

– Да аднаго чалавека.

– А мне з табой можна?

– Нельга. Ты трэцім лішнім будзеш.



## Не цяжкае сала

У вёсцы асвежавалі парсюка. За сталом сядзяць два суседы, налягаюць на сала. Гаспадар настойліва запрашае:

– Даражэнькія, вы лёгкае, лёгкае пакаштуйце!

– Ды нам і сала не цяжкае, – адказваюць тыя.

**Падслухаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

# «Наватар»



Не вельмі дбайнаму кіраўніку,
Які быў надта да рэформ ахвочы,
Сказалі неяк на нарадзе ў вочы,
Што у каровы малако – на языку.
Распараджэнне выдаў ён такое:
«Даіць кароў прывыклі за саскі,
Па-новаму пачнём – за языкі...
Павінны павялічыцца надоі!»
Даўно быў гэты выпадак кур'ёзны.
Мы пра яго не сталі б гаварыць,
Калі б не спрабавалі далучыць
«Наватараў» такіх да спраў сур'ёзных.

**Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*



Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.







Малюнак Міколы СЕЎЛЮКА, *1996 г.*




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ, *1996 г.*






Малюнкі Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, *1996 г.*




Малюнак Ірыны КОРАБАВАЙ, *2000 г.*

**Віктар ЛОЎГАЧ**

## Пацалунак шчупака

*Гісторыйка*

Расказваў мне неяк сябар Сцяпан, як рыбачыў з братам Ігнатам на Сожы. Колькі вудамі і спінінгамі не сцябалі ваду – усё дарэмна. Ужо рукі пачалі млець. Але неўзабаве Ігнату пашэнціла, і ён выцягнуў шчупака на паўтара кілаграма. Колькі радасці было ў шчаслівчыка! Ён нават захацеў пацалаваць свой улоў.

І толькі пацягнуўся вуснамі да шчупака, як рыбіна нечакана цапнула яго за нос. Што тут пачалося! Ігнат заенчыў на ўсё наваколле. Рыбакі, што былі побач, кінуліся яму дапамагаць. Але як? Шчупак мёртвай хваткай трымаўся за нос. Дапамагчы няўдачліваму рыбаку змаглі толькі ўрачы...

Сёння Ігната завуць няйнакш як «Пацалунак шчупака». Ён не крыўдуе, адгукаецца на гэтую мянушку. І сумна зазначае, што лепш за ўсё цалавацца з жонкаю – і асалода, і нос цэлы.

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

# ВЯСЁЛЫ АПАВЯДАЛЬНІК І ЖАРТАЎНІК



Сяброўскі шарж Зянона ПАЎЛОЎСКАГА, *1944 г.*

*Хоць і пражыў **Кузьма ЧОРНЫ** (Мікалай Карлавіч Раманоўскі) (1900–1944) невялікае жыццё, а спадчыну нашай літаратуры пакінуў вялікую – раманы, аповесці, апавяданні...*

*К. Чорны быў вясёлым апавядальнікам, жартаўніком. Гумарыстычны талент пісьменніка найлепш праявіўся ў ранніх апавяданнях, у аповесці «Скіп'ёўскі лес», у фельетонах і памфлетах, што друкаваліся ў газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну». Падчас Вялікай Айчыннай вайны ён жыў у Маскве, працаваў у гэтым выданні. Тады ж выйшла кніжка фельетонаў «Кат у белай манішцы» (1942).*

*Гумарыстычныя творы сабраны ў кнізе «Вяселле ў Скіп'ёўскім Перабродддзі» (1971). Адзначаючы 115-годдзе з дня нараджэння таленавітага творцы, згадаем тое-сёе з гэтага зборніка, надзвычай смешнае і сёння.*

**Кузьма ЧОРНЫ**

## ВЯСЕЛЛЕ Ў СКІП'ЁЎСКІМ ПЕРАБРОДДЗІ

*(Урывак з аповесці)*

...– Ага, дай божа памяць, – сказаў Сабастыян адразу пасля першай чаркі. – Што гэта ў цябе, браце ты мой, з нагою?

– Хто яго, або захаладзіў, або падверадзіў.

– Э-э, дык аптэчнае лякарства тут не заўсёды і паможа. Я табе параю такіх лекаў, што напэўна памогуць і ад захалоду, і ад падвяроду. Ты, пане браце, вазьмі бутэльку і налі ў яе крыху ў дно свежага салодкага малака. А тады занясі бутэльку ў лес і пастаў у мурашнік так, каб бутэлька роўна ўся была схована і каб рыла яе прыходзілася роўна з верхам мурашніка, а можа, і ніжэй крыху, дык гэта назе не зашкодзіць. Мурашкі, як шляхта на фэст, мой пане, рынуцца ў малако. Іх адразу стане поўная пляшка. Ты іх там заткні і прынясі дадому, пастаў у цёплую печ, каб яны затхнуліся, а тады высып у макацёр і пяратры качалкаю, каб яны сокам накрыліся. А тады разам з сокам зноў у бутэльку і налі даверху спірытысу. Няхай яно яшчэ дзень пастаіць, перамяшаецца, нацягне, састаіцца як мае быць, а тады налівай сабе на далоню і вышмароўвай нагу. Чуеш? Не пі, а шмаруй. Гэта лякарства павярхоўнае. Бо практыка паказала, што пітвом тут нагі не вылечыш.

– А хто ж гэта дзе практыкаваўся? – зацікавіліся за сталом.

– А гэта хто? Уга! У Цімкавічах быў такі Савасцей Панебра, дык у яго таксама нешта з нагою было. Я яму і нараіў шмараваца спірытусам з мурашкамі. Але ён быў такі ласунчык, што пакуль вышмараваць нагу, дык няйначай адліваў яшчэ з бутэлькі. Натуру меў такую, што не мог вытрымаць. Нарэшце ўжо так у яго і пайшло: калі садзіцца шмараваць нагу, дык кладзе каля сябе закуску. І пакуль ён тую нагу лячыў, дык так уцягнуўся, што ўжо і нага пакінула балець, а ён не мог і дня пражыць, каб паўлітра не выпіць.

– З мурашкамі? – аж устрапянуўся за сталом швагер Марцінавага стрыечнага брата, Мікалай Разважнік.

– Не, цяпер ужо без мурашак. Нашто ж яму тыя мурашкі, калі ўжо нага не балела...

*«Вяселле ў Скіп'ёўскім Перабродддзі», 1971 г.*

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## У ГАРОДЗЕ

Сумна, пуста на градзе  
У суседкі Валі –  
Памідоры дзе-нідзе,  
Ды і тыя звялі.

Не ўзыходзяць агуркі,  
З'едзена капуста.  
Там, дзе бульба, буракі,  
«Каларадаў» густа.

Шчаўе трускае жучок,  
Чорненькі, прыгожы...





Як бяду адвесці ўбок?  
Хто ёй дапаможа?

Дзякуй богу, што гарох  
Вылез кучарава:  
І не вымак, і не ссох –  
Уецца ўлева-ўправа...

## ФЭЛЬКАВЫ ГРЫБЫ



Прынёс грыбы Анюце Фэлька –  
Махавікі, баравікі.  
Не пакладзеш іх на талерку –  
Дальбог, адны там чарвякі!

– Ты, мусіць, з глузду з'ехаў, Фэля...  
А той раве:  
– Давай, вары!  
Напэўна, назбіраў з пахмелля,  
Ды з ім да трох не гавары.



Зварыла суп і кліча:  
– Злыдзень!  
Ідзі, сярбай тых чарвякоў!  
...Ляжаў пластом наш Фэлька тыдзень,  
Не еў ні сала, ні грыбоў...

*г. Барысаў.*





Сяброўскі шарж
Аскольда ЧУРКІНА, *1961 г.*

## ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ

*Народны паэт Беларусі* ***Пятрусь (Пётр Усцінавіч) БРОЎКА*** *(1905 – 1980) працаваў у многіх жанрах, услаўляў не толькі ўсё новае ў жыцці, але і выкрываў недахопы, якія ў ім меліся. У сваіх сатырычных вершах ладзіў «лазню» самага рознага кшталту адшчапенцам, бюракратам, людзям, у якіх душы з «вечнай мерзлаты».*

*Кніга сатыры і гумару П. Броўкі, што выйшла ў «Бібліятэцы «Вожыка» ў 1961 годзе, мела назву «Па сакрэту». За гэтай «сакрэтнасцю» і сёння яскрава праглядаецца шырыня і адкрытасць аўтарскай душы, яго ўсюдыбачнасць.*

*У 100-гадовы юбілей прыгадаем імя слыннага паэта, а таксама адзін з яго вершаў, актуальны і ў наш час.*

**Пятрусь БРОЎКА**

## НЕКАТОРЫМ ДАЧУШКАМ

І цешыцца сэрца, і цешуцца вочы,
Калі мы пабачым гурток дзе дзявочы.

Бо здольны на гульні і здатны на справу,
Мы рады, што выраслі дочкі на славу!

І ў полі вы спраўны, прыбрана і хата,
Якія ж вы добрыя, нашы дзяўчаты!

А ёсць і такія, іх, праўда, нямнога,
Якія рабіць не жадаюць нічога.

За бульбіну ўзяцца ўжо сталі баяцца,
Ад бульбы ж, вядома, шурпатыя пальцы.

Ну, што ўжо той венік, і той іх абурыў,
Каб часам сваю не пашкодзіць фігуру.

Усюды прычына – то мулка, то колка,
Яны ўжо забыліся нат на іголку.

Адзіныя думы, каб пекнай быць, гладкай...
Не гэткія, помнім, былі вашы маткі.

Бо вашыя маці і пралі, і жалі,
Здаецца, і вас неблагіх нараджалі.

Відаць, вы не бачылі шчасця такога,
Як з песнямі маці ішлі са жніўнога.

Зарой вечаровай гарэлі іх шчокі,
Бор песні адносіў далёка-далёка...

А жнеі спявалі, ішлі чарадою,
Навек я захоплены тою красою!

Дык сёння хачу я ціхутка, на вушка,
Сказаць некаторым пястунням-дачушкам:

– Стаміўся я вельмі чытаць вам маралі,
Вучыцеся ў матак, што вас нараджалі.



*Малюнак А. Волкава.*

*«Па сакрэту», 1961 г.*

---



**Сымон КАПЯЛЮШ**

## Каб не з'еў

*З натуры*

На агародзе ў бабы Пелагеі расце груша. Дрэва вялікае, фрукты прыгожыя, смачныя, радуюць гаспадыню амаль кожны год.

Вось і сёлета добра ўрадзілі. Але ж Пелагея чамусьці зрэзала на дрэве дзве вялікія галіны.

– Навошта ты гэта зрабіла? – пытаецца ў яе сяброўка.

– Грушы падаюць на агарод суседа, а я з ім нядаўна пасварылася...

*г. Рагачоў.*



Малюнак
Аляксандра ПЯТРОВА.

Ура! Мініяцюра

**Анатоль ПАЛЫНСКІ**

## Такі лёс

Ізноў з жонкай-цацай
Я еду на дачу.
За працаю, братцы,
Там свету не бачу.

*г. Беразіно.*



Сяброўскі шарж
Аскольда ЧУРКІНА, *1961 г.*

## НАТХНІЎ НІЗОК...

***Лідзія Львоўна АРАБЕЙ** (1925–2015) нарадзілася ў славутай вёсцы Нізок на Уздзеншчыне, адкуль родам сам патрыярх беларускай сатыры і гумару Кандрат Крапіва. Пісаць пачала ў 1945 годзе, тады ж прыйшла на працу ў часопіс «Вожык». Яе гумарэскі друкаваліся ў калектыўных зборніках, што выходзілі ў «Бібліотеці Перця» («Білоруський гумор», 1957), «Библиотеке Крокодила» («Пирожки с перцем», 1964; «Племянник с хвостом», 1967 – асобная кніга гумарыстычных апавяданняў). У «Бібліятэцы Вожыка» пабачыла свет кніга сатыры і гумару «Кватэра № 3» (1961). Пазней выступала як празаік, крытык, літаратуразнавец...*

*На жаль, Лідзія Львоўна зусім мала не дажыла да 90-годдзя, але засталася памяць пра яе, шматлікія аўтарскія кнігі.*

**Лідзія АРАБЕЙ**

## У палоне выхавання

*(Урывак з апавядання)*



Ігар сядзеў у пакоі і з сумам пазіраў праз акно на двор. Там гуляў Алік. Аліку, відаць, было весела, бо ён з захапленнем цягаў за вяровачку свой сіненькі грузавік.

– Ма-ам, – працягваў Ігар, паварочваючыся да маці, – пусці мяне на вуліцу-у...

– Зноў на вуліцу? – прастагнала Ірына Паўлаўна, адкладваючы ўбок новы раман, які яна толькі што пачала чытаць. – Хіба ж ты не бачыш, сонейка, што на вуліцы гэты разбойнік?! Хочаш, каб ён зноў збіў цябе на горкі яблык?! Я ж учора ледзь выратавала цябе!

Ірына Паўлаўна пачала асыпаць пацалункамі Ігараў тварык, які калі і нагадваў яблык, то не горкі і збіты, а свежанькі і чырвоненькі.

Ігар уздыхнуў. З уласнага невялічкага жыццёвага вопыту ён ведаў, што спрачацца з мамай не варта, і калі яна сказала, што не пусціць да Аліка, то і не пусціць, асабліва пасля таго, як Алік стукнуў Ігара кулаком. Праўда, Ігар дакладна не памятае, хто каго стукнуў – ён Аліка ці Алік яго, але мама кажа, што гэта Алік стукнуў яго. Яна нават крычала тады на Аліка, што ён бандыт і разбойнік.

Ігар успомніў, як мама называла Аліка разбойнікам, і ўявіў сабе Аліка з нажом у зубах, падобным на таго страшэннага бандыта, якога ён бачыў на малюнку, што ў кніжцы пра Алі-Бабу і сорак разбойнікаў. Ігару зрабілася вельмі смешна. «Ну які ж Алік разбойнік, – думаў Ігар, – калі ён жабы баіцца і калі я яго раз-два кладу на лапаткі!»

Але разбойнік Алік ці не, а гуляць з ім мама не пускае.

І вось Ігар дома. Адзін... Як гэта сумна!.. Алік гуляе на двары, а яго дык не пускаюць...

*«Кватэра № 3», 1961 г.*

## Анекдоты з жыцця рыбакоў

– Ты на рыбалку надоўга? – пытаецца жонка ў мужа.

– Не, – адказвае той, – Віця ўсяго дзве бутэлькі ўзяў.

* * *

– І навошта ты ажаніўся? – цікавіцца адзін рыбак у другога.

– Каб рыбу было каму чысціць...

* * *

З размовы паміж мужам і жонкай.

– Дарагі, ты купіў мне падарунак на дзень нараджэння?

– Так.

– А ён мне спадабаецца?

– Калі не, дык я забяру. Усё жыццё пра гэтакую вуду марыў!

* * *

Два рыбакі выхваляюцца адзін перад адным.

– Я такую рыбіну злавіў, што на вагах не хапіла дзяленняў, каб яе ўзважыць!

– А мая была такой вялікай, што адзін толькі яе фотаздымак пацягнуў на тры кілаграмы!

* * *

Прахожы спыняецца каля рыбалова, які задрамаў над нерухомымі паплаўкамі, і пытаецца:

– Што, не ловіцца? Зусім не ловіцца? І нават маленькая?..

Рыбалоў хмыкае і паказвае на суседа, які таксама дрэмле над вудамі.

– Гэта ў яго маленькая не ловіцца. У мяне не ловіцца вялікая!..

**Даслала**
**Ганна ЧАРНУШЭВІЧ,**
*Слуцкі раён,*
*в. Замосце.*




# Мініяцюры

## Згадка

Успамінаў стары Аўсей,
Як ён блукаў малы ў аўсе.

## Хвалько

Лічыць Ціт сябе умелым,
Спрытам гучна хваліцца.
Хоць, бывае, за абедам
З рук відэлец валіцца.



## Помпа

Да працы рвалася даўно,
«Не падвяду!» – крычала.
А сапраўды вось як было:
Яна... не падкачала.

**Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

## Не пазнаў

Юрась прыехаў з горада на вёску –
У модных туфлях, з новаю прычоскай.
Замест «дзень добры»
«здрасьце» ўсім кідаў...
Зайшоўся брэхам Тузік – не пазнаў.



## Мова і язык

«Я мову на язык не памяняю, –
Сказаў сынок мне раніцай за чаем. –
Тым больш, што маю ўжо язык адзін:
Жаваць ён зараз памагае блін...»



**Алесь ГОЦКА,**
*г. Навагрудак.*

## Шлях

«Усе намаганні, – казаў, – прыкладу,
Да сэрца каханай дарогу знайду».
Калі адшукаў, дык пасля быў не рад:
Не мог павярнуць з таго шляху назад.



## Чаму сышоў?

Жыла па прынцыпе такому:
Мне ўсе павінны, я – нікому.
Дзівілася: з якой прычыны
Да іншай муж сышоў жанчыны?

## Памылілася

– Я да суседкі на хвіліну, –
Сказала мужу Акуліна,
Ды трошкі памылілася:
Цераз паўдня з'явілася.

## Скарб

Нёс дадому бацька рэчы –
Што ў камору, што ў запечак...
А пасля Васіль, сынок,
Скарб на сметнік павалок.

**Уладзімір ШПАДАРУК,**
*г. Рагачоў.*



# Сідарава каза, ці Як усё было на самай справе

– Мяне завуць Сідар. Вы, напэўна, лічыце, што я жорсткі і сварлівы чалавек? Канечне ж, адлупцаваў казу. Але яна сама вінаватая ў гэтым, бо парушыла нашу дамову. А пачалося ўсё так...

Аднойчы жонка кажа мне:

– Давай купім казу. Казінае малако надта карыснае, імунітэт умацоўвае.

Я з жонкаю спрачацца не прывык. Таму назаўтра пайшоў на кірмаш і купіў казу.

Завёў яе на луг, прывязаў да дрэва. Праз гадзіну прыходжу – нідзе няма. Прыглядзеўся, а каза ў суседскім агародзе буракі прарэджвае ды на маладую капусту налягае. Выгнаў яе адтуль, зноў да дрэва прывязаў і дадому падыбаў.

Але неўзабаве не вытрымаў і зноў пабег на луг. А каза ўжо іншаму суседу агарод «палоць» дапамагае.

Я папярэдзіў рагатую:

– Будзеш карміцца чужымі садамі, плаціць будзеш сваімі бакамі.

І дубец паказаў. Яна патрэсла барадой, маўляў, згодная.

Так мінуў дзень.

Увечары жонка падаіла казу, паспытала малака ды кажа:

– Смачнае! Адразу адчула, як імунітэт умацоўваецца.

– Вядома, – адказваю, – гэта ж напой з суседскай капусты ды буракоў. Чаму яму не быць смачным і карысным?



## Дзіравы тузін

– Мікола, ты чым займаешся?
– Шкарпэткі мыю. Цэлы тузін назбіраўся.
– Ого, аж цэлых дванаццаць штук!
– Не, цэлых толькі тры. Астатнія цыраваць трэба.

## У гонар цешчы

Размаўляюць дзве сяброўкі.
– Не ведаю, як у іншых сем'ях зяць ставіцца да цешчы, а мой муж вельмі любіць маю маці, шануе. Нават сваё вынаходніцтва назваў яе імем!
– І што ён вынайшаў?
– Новы від моцнадзейнага яду.




## Як адно імгненне

– Як вы правялі адпачынак? – пытаюцца падначаленыя ў шэфа.
– Вельмі добра. Але ён так хутка праляцеў, што і азірнуцца не паспеў, – адказаў той.
– Мы таксама, – адгукнуліся яны.

## Жыві — не хачу!

– Вось жыццё пайшло: жыві – не хачу!
– Якраз, як у мяне з жонкай: не хачу – а жыву!



## Без перамен



– Ты, бачу, з рыбалкі? Як поспехі?
– Як і ўчора.
– А колькі ўчора злавіў?
– Учора я наогул на рыбалку не хадзіў.

**Пачуў і даслаў Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

## Альфонсы і муркі



Кот Альфонс заляцаўся да Муркі:
Танцаваў перад дамай мазурку,
Раздаваў шчодра ён кампліменты,
Карацей, апрацоўваў «кліентку».

Ці кахаў сапраўды – невядома.
Пасяліўся у Мурчыным доме,
Смачна еў, доўга спаў, і пры гэтым
Не вылазіў лайдак з інтэрнэту.

Кацяняты з'явіліся хутка...
Спала Мурка гадзіну на суткі,
Даглядала малых і Альфонса
(Ён на працу не сунуў і носа).

А між тым ёй сяброўкі казалі,
Што тайком ходзіць мілы да кралі.
Пазнаёміўся у інтэрнэце,
Быццам ёсць і сумесныя дзеці...

* * *

Тыпажоў такіх ведаем многа:
І альфонсаў, і мурак-нябогаў.
Можа, час нам усім зразумець,
Што нахабства не варта цярпець?

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*

І сам ледзь не літр выпіў. Здалося, нават паздаравеў.

На наступны дзень я казу не прывязваў. Думаю, калі ў агарод чый завітае, то і добра, вітамінаў у малацэ больш будзе.

Так і пачалі жыць. Каза па чужых агародах ходзіць, а мы з жонкай імунітэт умацоўваем.

Аднойчы рагатая ў наш агарод завітала, гародніну нібы языком злізала. Як убачылі мы з жонкай такое, дык аж ціск падскочыў. Я адразу пабег дубец шукаць. Вярнуўся, а на двары старшыня сельсавета стаіць і суседзі сабраліся. Талкуюць: маўляў, ёсць сведкі, ваша скаціна нашыя агароды спляжыла, аплаціце ўрон пацярпелым. Што зробіш? Аддаў грошы.

Вечарам зайшоў у хлеў і кажу казе: «Я цябе папярэджваў, калі будзеш карміцца чужымі садамі, плаціць будзеш сваімі бакамі? Ты не паслухала. Вось і атрымлівай». Ды лупцаваў яе не таму, што грошы суседзям давялося заплаціць, а таму, што каза на свой агарод вока кінула.

На наступны дзень завёў яе на кірмаш.

З таго часу я з козамі не сябрую і ні пра што не дамаўляюся. Слова яны не трымаюць. А што датычыць імунітэту, то цяпер мы з жонкай павышаем яго гарбузовымі семкамі. Вітамінаў у іх – не пералічыць.

*P. S. Узяць каментар у казы аўтару не атрымалася. Ніхто не ведае, дзе яна знаходзіцца. Ды наўрад ці мы пачулі б ад яе праўду. А ці верыць Сідару, вырашайце самі.*



**Маналог Сідара запісаў**
**Андрэй СІДАРЭЙКА.**
*Рэчыцкі раён, в. Каравацічы.*




Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Стыль кіраўніцтва

Сцэнка



**ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:**

**Сцяпан Сцяпанавіч,** кіраўнік арганізацыі.
**Нічыпар Трафімавіч,** ягоны намеснік.
**Маргарыта Пятроўна,** бухгалтар.
**Зінаіда Мікалаеўна,** эканаміст.

Дзеянне адбываецца ў кабінеце Сцяпана Сцяпанавіча. Ён сядзіць за сталом. Дзверы крыху прыадчыняюцца, у кабінет уваходзіць Нічыпар Трафімавіч.

**Нічыпар Трафімавіч** *(нявесела).* Выклікалі, Сцяпан Сцяпанавіч?

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Ну, чаму адразу «выклікалі»? Запрашаў! Прычым, не толькі вас. Але астатнія чамусьці затрымліваюцца...

**Нічыпар Трафімавіч.** Ды там яны, за дзвярыма. Ужо хвілін з дзесяць...

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Дык чаму ж не заходзяць?

**Нічыпар Трафімавіч** *(не адразу).* Ды вось, мяне на разведку паслалі...

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Нічога не разумею! На якую разведку?

**Нічыпар Трафімавіч** *(паціскае плячамі).* Звычайную! Разведаць, які настрой у вас сёння... Ну, і ўсё такое...

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Цудоўны настрой! Як і заўсёды. А чаму вы нешта спахмурнелі адразу?

**Нічыпар Трафімавіч.** Ды так... *(Уздыхае.)* Дык што, казаць, каб заходзілі?

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Ну, вядома ж, няхай заходзяць! Не мой стыль — прымушаць людзей чакаць.

Нічыпар Трафімавіч выходзіць, праз хвіліну ў кабінет уваходзяць Маргарыта Пятроўна і Зінаіда Мікалаеўна. Выгляд у іх таксама даволі невясёлы. Апошнім зноў з'яўляецца Нічыпар Трафімавіч. Сцяпан Сцяпанавіч устае.

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Калі ласка, праходзьце! Сядайце, таварышы!

Усе рассаджваюцца вакол стала. Сцяпан Сцяпанавіч апускаецца на ранейшае месца.

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Дык вось, таварышы, я паклікаў вас, каб вырашыць некаторыя злабадзённыя пытанні, якія ўжо нельга адкладваць на далей. *(Гартае нейкія паперы.)* Пачнём з вас, Маргарыта Пятроўна...

**Маргарыта Пятроўна** *(уздрыгвае, ускоквае з месца).* З мяне?

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Не трэба ўставаць, сядзіце. Ды сядайце ж вы, калі ласка! *(Маргарыта Пятроўна зноў садзіцца.)* Маргарыта Пятроўна, калі будзе скончана фінансавая справаздача за мінулы квартал?



Міхась МІРАНОВІЧ

## МІРАНІЗМЫ

### З юнацтва

Пачатак лета.
Зноў субота.
Закончыліся
Ў клубе танцы.
Пад ранак
Гэтак спаць ахвота!
Ды трэба
З дзеўкай абдымацца...

### Ваўку яшчэ засталося...

Бабуля
Ўнучку дакарае,
Што воўчыя грыбы
Збірае.
— Ды не хвалюйся! —
Кажа Зося. —
Ваўку яшчэ
Шмат засталося!

### Не папярэдзіла

Прызначыла
Спатканне ты ў гумне,
Калі сяло
Пад поўнач угамоніцца.
Чаго ж не папярэдзіла
Мяне,
Што ў ваўкадава вашага
Бяссонніца?

### Альпіністы

Хтось любіць лес,
А нехта — мора,
Камусьці голы стэп —
Ігрышча...
Кум — альпініст:
Ён лезе ў горы,
А я з кумою —
На гарышча!



*г. Віцебск.*

**Маргарыта Пятроўна** *(ледзь чутна).* Не ведаю.

**Сцяпан Сцяпанавіч** *(амаль умольна).* Маргарыта Пятроўна, галубка! Ну, вы ж дарослы чалавек, вы ж самі ўсё разумець павінны. Трэці тыдзень вы над ёй корпаецеся і ніяк скончыць не можаце. Ну, нельга нам далей цягнуць з гэтым, разумееце?!

**Маргарыта Пятроўна** *(ледзь чутна).* Разумею.

**Сцяпан Сцяпанавіч.** На гэтым тыдні скончыце?

**Маргарыта Пятроўна.** Не ведаю...

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Ну і я не ведаю, што мне з вамі рабіць! Зінаіда Мікалаеўна, за вамі таксама затрымка. Вы яшчэ на тым тыдні павінны былі здаць мне план-праект эканамічнага развіцця нашага прадпрыемства на наступны год.

**Зінаіда Мікалаеўна** *(ціха).* Я ведаю.

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Ну, і калі ж вы яго мне здадзіце?

**Зінаіда Мікалаеўна** *(яшчэ цішэй).* Не ведаю.

Наступныя некалькі хвілін праходзяць у поўным маўчанні. Сцяпан Сцяпанавіч глядзіць на падначаленых, тыя сядзяць, апусціўшы галовы. Раптам Маргарыта Пятроўна гучна ўсхліпвае, за ёй усхліпвае і Зінаіда Мікалаеўна.

**Сцяпан Сцяпанавіч** *(занепакоена).* Я што, пакрыўдзіў вас? Ну, прабачце, прабачце, калі ласка! Напэўна, не трэба было мне так груба з вамі размаўляць, але ж і вы мяне зразумейце...

Ён змаўкае, не дагаварыўшы, бо ў гэты самы момант абедзве жанчыны, заліваючыся слязьмі, ускокваюць і выбягаюць з кабінета. Сцяпан Сцяпанавіч разгублена глядзіць ім услед.

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Нічога не разумею. Я што, сапраўды іх пакрыўдзіў?

**Нічыпар Трафімавіч** *(устае).* І вы яшчэ пытаецеся!.. Вы што, не бачыце, што ў калектыве робіцца?

**Сцяпан Сцяпанавіч** *(разгублена).* А што робіцца ў калектыве?

**Нічыпар Трафімавіч.** Ну, не можам мы так больш, Сцяпан Сцяпанавіч! Вы ўжо прабачце, але я ўсё скажу... усё, што думаю. Бо набалела!

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Ну, калі ласка, кажыце. Я ж заўсёды прыслухоўваюся да меркаванняў знізу, таму што калектыў – гэта...

**Нічыпар Трафімавіч.** Ды што калектыў! Прычым тут калектыў?! Я пра вас кажу, пра ваш стыль кіраўніцтва!



Працяг на стар. 16-17.



Малюнак Алега ПАПОВА.

## Летнія анекдоты

Адна дзяўчына забылася выкласці ў сацыяльную сетку фотаздымкі з адпачынку... І ўсё! Лічы, што наогул не ездзіла.

Агарод – гэта тры ў адным: салярый, фітнэс, трэнажорная зала.

У дачнікаў свой гараскоп. Улетку яны становяцца Ракамі і Вадалеямі.

– Чаму ты з курорта такі белы вярнуўся?
– У гасцініцы быў Wi-Fi, а на пляжы – не.

У чужы агарод са сваім агуркам не лезуць.

Заканчэнне. Пачатак на стар. 14.

**Сцяпан Сцяпанавіч** *(збянтэжана).* А што мой стыль?

**Нічыпар Трафімавіч.** Ну, нельга так, паважаны Сцяпан Сцяпанавіч! Нельга так з намі!

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Як так?

**Нічыпар Трафімавіч.** А вось так, як вы практыкуеце! *(Перадражнівае.)* Калі ласка, сядайце. Я, можа, вас пакрыўдзіў... Ды хіба ж з намі так трэба?!

**Сцяпан Сцяпанавіч.** А як?

**Нічыпар Трафімавіч.** А так, як ранейшы дырэктар з намі размаўляў. Ці як ягоны папярэднік. Як гаркнуць на ўвесь кабінет, ды як грукнуць кулаком па стале – работа не ідзе, а літаральна кіпіць!

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Вы думаеце, прычына ў гэтым?

**Нічыпар Трафімавіч.** Толькі ў гэтым, даражэнькі Сцяпан Сцяпанавіч, і ні ў чым другім. Вы вось паспрабуйце адзін разочак па стале кулаком грукнуць – усе справаздачы на наступны дзень у вас будуць. Гатовыя!

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Вы думаеце?

**Нічыпар Трафімавіч.** Упэўнены!

Ён змаўкае, і некаторы час яны абодва маўчаць.

**Сцяпан Сцяпанавіч** *(нерашуча).* Але ж я не ўмею так... ніколі не рабіў...

**Нічыпар Трафімавіч.** Навучыцеся, Сцяпан Сцяпанавіч. Варта толькі пачаць. Вось і пачніце! З мяне і пачніце, як з вашага намесніка...

**Сцяпан Сцяпанавіч.** З вас?

**Нічыпар Трафімавіч.** З мяне! Ваш папярэднік толькі з мяне і пачынаў. Для размінкі. Ну, давайце! Кулаком па стале! *(Сцяпан Сцяпанавіч няўмела стукае кулаком па стале.)* Ды не так, больш рашуча. І крыкніце на мяне!

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Што крыкнуць?

**Нічыпар Трафімавіч.** Што-небудзь! Што я, такі-сякі, зусім службу заваліў! І яшчэ раз кулаком па стале!

Змоўкнуўшы, ён глядзіць на начальніка і чакае. Сцяпан Сцяпанавіч уздыхае і зноў няўмела стукае кулаком па стале.

**Сцяпан Сцяпанавіч** *(не зусім натуральным тонам).* Ты, такі-сякі, зусім службу заваліў!

**Нічыпар Трафімавіч** *(падказвае).* І зноў па стале кулаком, Сцяпан Сцяпанавіч, для лепшага, так бы мовіць, эфекту!

**Сцяпан Сцяпанавіч** *(усур'ёз раззлаваўшыся).* Ды што вы з мяне клоўна нейкага робіце! *(Павышае голас.)* Вы калі працаваць пачнеце, як трэба! *(Стукае кулаком па стале.)* Ды вы ведаеце, што я з вамі магу зрабіць, калі пажадаю?! *(Зноў стукае кулаком.)* Дзе гэтыя дзве лайдачкі, выкліч іх зараз жа да мяне!

Нічыпар Трафімавіч выскоквае з кабінета, праз імгненне ў кабінет забягаюць Маргарыта Пятроўна і Зінаіда Мікалаеўна. Выгляд у іх зараз бадзёры і нават вясёлы.

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Вы! *(Паказвае на Маргарыту Пятроўну.)* Калі будзе справаздача?!

**Маргарыта Пятроўна** *(бадзёра).* Паслязаўтра!

**Сцяпан Сцяпанавіч.** Заўтра раніцай яна павінна ляжаць у мяне на стале! А інакш... *(Грукае кулаком.)*

**Маргарыта Пятроўна.** Будзе ляжаць, Сцяпан Сцяпанавіч! *(Выбягае.)*

**Сцяпан Сцяпанавіч** *(Зінаідзе Мікалаеўне).* Заўтра ж праект плана ў мяне на стале! Раніцай! *(Зноў грукае кулаком.)* Паспрабуйце толькі не зрабіць!

**Зінаіда Мікалаеўна** *(весела).* Зраблю, Сцяпан Сцяпанавіч! Усё зраблю! *(Таксама выбягае.)*

**Сцяпан Сцяпанавіч** *(усё ніяк не можа супакоіцца).* Я вас навучу працаваць! Я вам пакажу, дзе ракі

---

## ЛЫЖЫ НА МОРА

Бабуля валасы фарбуе,
Ды так, як мода патрабуе.
А ўсё таму, што на узмор'і
Яе чакае санаторый.
Там і лячэнне, там і танцы...
Бабуля прыхапіла сланцы,
Купальнік узяла, сукенкі,
Каб выглядаць, нібы паненка.
А раптам стрэне кавалера –
Палкоўніка ці афіцэра?
Вось з дапамогаю суседкі
Бабуля чуб уклала рэдкі,
На мора навастрыла лыжы –
Забыла нават і пра грыжу!

**Таіса РОЛІЧ,**
*Глыбоцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*



## ПЕРАСТАРАЛАСЯ

Ў дом адпачынку едзе Апанас
Каторы раз.
Паклаў у чамадан бялізны свежай,
Узяў сваю найлепшую адзежу.
А жонцы раптам цюкнула: «Ага!
Калі ты ўсё-ткі едзеш па загар,
Абыдзешся, мой любы, без абноўкі,
Бо будуць там вандроўкі
Да маладых жанчын.
Не вельмі важны чын –
Паходзіш у фуфайцы
І дранай майцы».
Пакуль курортнік мыўся
Ды галіўся,



## КУРОРТНЫЯ

Марыля чамадан распакавала,
Па-новаму сабрала.
Вось ад'язджае Апанас.
На гэты раз
Жанчына радасць не хавае,
Знае:
«Налева» ён не пойдзе там,
Бо ўсіх адверне дам...
Вярнуўся муж дамоў:
– Здароў!
Хваліцца буду не загарам –
Разбітым тварам.

зімуюць! Вы ў мяне ўсе заскачаце, усе заплачаце! Я вас усіх у бараноў рог скручу! Я вас... я вам! О, вы яшчэ не ведаеце, на што я здатны!

Выкрыкваючы гэта, Сцяпан Сцяпанавіч усё грукае і грукае кулаком па стале. У кабінет зноў убягае Нічыпар Трафімавіч. Спыніўшыся каля дзвярэй, ён з захапленнем глядзіць на свайго разгневанага начальніка.

**Нічыпар Трафімавіч** *(шэптам).* Геніяльна, Сцяпан Сцяпанавіч! Ну, проста геніяльна! Нават лепш, чым я чакаў. Ну, цяпер у нас справа пойдзе!..

Канец.





Комікс Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

## Залёты

Глядзі, як ты ўдружыла лоўка,
Мая сяброўка.
Не трапіў ні на пляж, ні ў рэстаран.
Баялася, што закручу раман?
Дарэмны быў твой страх:
Правёў я адпачынак... у кустах!

**Людміла САЛЯНКА,**
*Докшыцкі раён,*
*в. Таргуны.*

## Гісторыя з санаторыем



Працаваў Кузьма ў цяпліцы –
Дрэнна сталася з «маторам».
Так ён трапіў у бальніцу,
А пасля і ў санаторый.

Раз займеў сабе хваробу –
Сэрца трэба падлячыць
Ды ад працы хлебароба
На прыродзе адпачыць.

Працэдуры, тэрапія...
На папраўку йдзе Кузьма.
Спрэс дзяўчаты маладыя –
Часу сумаваць няма!

Лепей жонка б не пускала
Мужа ў санаторый.
Ды яна, відаць, не знала:
Там работы – мора!

**Мікола ГРАБЯНЁК,**
*Шаркоўшчынскі раён,*
*в. Радзюкі.*




Маё прывітанне, дружа Вожык!

Усе мы часам бываем неасцярожнымі, лаем сябе за нязграбнасць. Але складана ўявіць, наколькі моцным было самабічаванне чалавека, якому давялося «прыгатаваць» пасярод сталічнага праспекта гэтую гіганцкую яешню.



Сэрца сціскаецца ад такога відовішча! Таму, як кажуць, не спрабуйце паўтарыць дадзены нумар самастойна і абавязкова правярайце, ці добра перавязаны вашыя пакункі.

**Ганна КІСЛУШЧАНКА,**
*г. Мінск*

Братка Вожык!

Вядома, што добры гаспадар і старым рэчам знойдзе годнае прымяненне. У пацвярджэнне гэтай думкі дасылаю табе вось такі фотаздымак.



Не кожнае пудзіла апранаецца настолькі стылёва, праўда? Варта прызнаць, што гэтакі прыгажун здольны навесці жах не толькі на птушак, але і на людзей. Асабліва, калі сустрэцца з ім не днём, а ноччу.

**Леся СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*




Шаноўны сябра Вожык!

Ці задумваўся ты калі-небудзь, чаму ў нас у Мінску так часта сустракаюцца раскіданыя сметніцы? Вось я заўсёды грашыў на людзей, маўляў, ужо сіл няма ў некаторых, каб бутэльку ці фанцік які да сметніцы дакінуць.

Але мае погляды змяніла сустрэча на сталічным прыпынку грамадскага транспарту «Парк Дружбы народаў» з адной вельмі нахабнай птушкай. Літаральна за хвіліну цікаўная шэрая варона выцягнула з урны ўсё смецце — так ёй хацелася адшукаць там што-небудзь смачненькае! І знайшла.



А пасля гэтага, задаволеная, хутка пакінула «месца злачынства», прымусіўшы задумацца: ці то сметніцы неабходна памяняць, ці то птушак часцей падкормліваць?

**Уладзіслаў ЖУК,**
*г. Мінск.*

---

**Пятро БАБРУК**




Выпівоха Аўхім Налівайка даўно збіраўся купіць карову. Дакладней, гэтага хацела жонка Сцепаніда. Сам ён малако не любіў, казаў, што страўнік да яго не прыстасаваны. Выбраць карову аказалася няпроста: то цана вялікая, то жывёліна здыхля, то надой малы...

Сцепаніда была на рабоце, калі муж адным махам апаражніў пляшку віна, улёгся на канапе. У думках з'явілася нейкая млявая лёгкасць — і ён адразу праваліўся ў сон...

Аўхім Налівайка апынуўся на лузе, дзе пасвіліся каровы. Тут жа завіхаліся даяркі ў белых і чырвоных халатах. Мужчына прынюхаўся. Цуд! Пахла не толькі сырадоем, але і віном. Налівайка нават разгубіўся. Каб праясніць сітуацыю, звярнуўся да даярак:

— Скажыце, даражэнькія, дзе тут вінакурня, адкуль патхае такім духмяным водарам?

Жанчыны паказалі яму на статак кароў.

— Жартуеце, — пакрыўдзіўся Аўхім.

— Зусім не, нашы каровы паўалкагольнага заводу. Вывеў такую пароду адзін вучоны. Потым, праўда, з-за сваіх вопытаў і памёр.

— Туды яму і дарога! Прыдумаў ліха ведае што: падпойваць кароў, каб больш давалі гэтага гідкага

## Вясёлы слоўнік

БАЛАГОЛ – няма чаго апрануць на баль.

ВАЛАВОДЗІЦЬ – выгульваць вала.

ВЫЦВЯРЭЗНІК – цвярозы разбойнік.

ДАЛОЎЛІВАЦЬ – разліваць па падлозе.

ДАТАЎЧЫ – адзначаць свята.

КАПТУР – турыстычная пуцёўка ў капіталістычную краіну.

ПСАВАННЕ – ванна для сабакі.

РАЗДУРАНЫ – ашуканы адзін раз.

РАЗЛІК – адзінка.

СПРАВАЗДАЧА – дачныя клопаты.

СТАРЫЗНІК – прапаў дзед.

СТАТУЯ – векавое дрэва.

СУМЛЕННЫ – самотны гультай.

ТУЗІН – дзве Зіны.

**Даслала Таіса РОЛІЧ,**
*Глыбоцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*

**Віктар КУНЦЭВІЧ**

## Пра тое, як мяне пачулі



Я пытаўся ў сельсавеце
І дазваньваўся ў раён:
«Ліхтары чамусь не свецяць,
Змоўкла радыё маё...»
Абяцалі разабрацца,
Штосьці адрамантаваць,
Толькі – як тут не злавацца? –
Ліхтары ўсё не гараць.
Вечар. Цемра на парозе.
Нечаканая ідэя –
Званю «хуткай дапамозе»:
«Памірае Пелагея!»
Гук сірэн, мігалкі свецяць,
Не дарэмным быў званок!..
«Што ж ты робіш, дурань Пеця,
Для каго ты даў урок?»
Не забыліся, паверце,
Пра мяне міліцыянты:
«Гэта вы – Лахмыткін Пеця?»
«Я». – «Збірайце свае транты!..»

*г. Магілёў.*




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

малака, – са злосцю сказаў Аўхім.

Жанчыны ўсміхнуліся і патлумачылі, што іх кароўкі не п'юць, а даюць віно. Даяркі ў белых халатах дояць «малочных» кароў, а ў чырвоных – «вінных».

Здзіўлены Аўхім разглядаў жывёл з усіх бакоў ды касіўся на чырвонае ад віна вымя, потым учыніў даяркам сапраўдны допыт. Цікавіўся: якія надоі (вядома, не малака, а віна), ці можна ўладкавацца даяром? Нават папрасіў у жанчыны ў чырвоным халаце пакаштаваць віна. Тая змілавалася і наліла ў кубачак напою. Твар выпівохі засвяціўся ад радасці. І толькі ён працягнуў дрыготкую руку да віна, як адчуў моцны штуршок. Гэта разгневаная Сцепаніда таўханула яго ў бок і падняла лямант на ўсю хату:

– Каб ты спруцянеў! Вунь куры агарод здраталі, свінні някармленыя верашчаць. А ён напіўся і ляжыць на канапе!

Апамятаўшыся, Налівайка пайшоў у наступленне:

– Такі сон сапсавала! Ці ж ты ведаеш, дурніца, што я знайшоў незвычайную карову і гатовы быў яе купіць, а тут ты наляцела!.. Па вядры віна надойвалі б!..

– Вось да чаго п'янства даводзіць, – паківала галавой Сцепаніда. – Зусім з глузду з'ехаў.

Пасля такога сну Аўхім Налівайка катэгарычна адмовіўся купляць карову. Ён сніць і бачыць, як нашы навукоўцы выведуць такую ж паўалкагольную пароду.




*Пружанскі раён,*
*в. Шубічы.*









## На экскурсіі

### Са школьнага сачынення

«...Мы хадзілі на экскурсію, калі яшчэ была ноч. У небе былі чуваць крыкі качак. Дрэвы варушыліся ў кустах чароту. Мы раздзяліліся на дзве групы, і да кожнай групы далучылася экскурсавод Ганна Пятроўна. Яна расказвала нам пра ўсе веды, якія сабраліся ў галаве. Гаварыла, што калі мы будзем слухаць яе, то можам стаць людзьмі. Заклікала нас вывучаць батаніку, алхімію і ўсё астатняе.

Затым яна падняла кляновы жоўты ліст і наступіла залатая вясна.

Раптам мне пачалі ціснуць новыя замежныя чаравікі, якія абуў раніцай на пабітыя моллю шкарпэткі. Я спатыкнуўся і ўчапіўся за белавусую касу Кацькі. Яна закрычала на ўсю вуліцу ціхім спакойным голасам. Кацька мне падабаецца за прыгожы прамы нос, а на канцы кірпаты. Шкада толькі, што за рабаціннем на твары я не разгледзеў рысы яе характару.

У нашай настаўніцы прыгожыя вочы з сярдзітым характарам. Мы многа на экскурсіі вывучылі ведаў. Калі я многа даведаўся, я пайшоў дадому.

У мяне больш проста няма слоў».

**Выпісаў Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ,**
*г. Маладзечна.*



Міні-комікс
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Добра быць у адпачынку! Хочаш — прыбіраеш, хочаш — мыеш, хочаш — прасуеш... Ды і на дачу можна з'ездзіць. Каб паліваць, палоць, капаць...

☺ ☺ ☺

Адпачынак — гэта час, калі на працу можна прыходзіць, калі захочаш.

☺ ☺ ☺

— Як твой адпачынак?
— Выдатна! Валяўся на мяккай канапе, купаўся ў ванне і хадзіў на экскурсіі ў мясцовыя супермаркеты.

☺ ☺ ☺

У Турцыі з'явіліся новыя гасцініцы эканом-класа. Іх лёгка пазнаць па цёмных вокнах і таблічках: «Усё выключана!»



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## ЗАГАДКІ



Не баіцца ён нікога,
На спіне іголак многа.
Чутны ў лесе тупат ножак,
Па грыбы сабраўся ...

(Вожык.)

* * *

Мышку ловіць – ў снег ныраe,
Хітрым вокам пазіраe.
Футра – рыжая краса!
Ганарыцца ім ...

(Ліса.)

* * *

Мяч аранжавы ляжыць
Паміж градаў, на мяжы.
Ды не ўмее ён скакаць –
Тоўсты, цяжкі, не падняць!
Быў зярняткам гэты груз,
Спеў да восені ...

(Гарбуз.)

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*




Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Настаўнік – вучню:

– Праспрагай дзеяслоў «ісці».

– Я іду, ты ідзеш... – мямліць вучань.

– Хутчэй!

– Ён бяжыць, мы бяжым, яны бягуць...

☺ ☺ ☺

– Ты добра ведаеш матэматыку? – пытае дзед у ўнука, які ходзіць у трэці клас.

– Выдатна.

– Тады скажы, на колькі тысяча большая за адзінку?

– На тры нулі, дзеду.

☺ ☺ ☺

Маці з сынам разглядаюць музычныя інструменты.

– А піяніна ў вас ёсць? – звярнулася да прадаўца жанчына.

– Не, зараз няма.

– Дзякуй богу! – узрадаваўся сын.

**Даслаў Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*

**Вольга САКАЛОВА**

# ПЕГАС У АГАРОДЗЕ



Не ўдаліся памідоры,
Агуркі пасохлі ўсе?
Я з тваім, паэтка, горам,
Разбяруся пакрысе.

Выкінь з галавы турботы,
Як ідзеш на агарод.
Трэба працаваць з ахвотай,
Так, як я раблю штогод!

З морквай, бульбай у гародзе
Гаманю, нібы з раднёй.
І яны растуць у згодзе –
Мабыць, любяць голас мой!

Калі хочаш памідораў,
Дык цянёчак не шукай,
А патрошкі (не да змору)
Пустазелле вырывай.

Ох, не любім мы, жанчыны,
Калі хто дае наказ...
Неўраджаю ёсць прычына:
Ты ж з натхненнем бавіш час!

Агуркі ды памідоры –
Не прычына бедаваць.
Лепш глядзі, каб у разоры
Талент свой не закапаць!

ІМПАРТ

Малюнкі
Генры БЮТНЕРА
*(Германія)*











# Вось дык адпачылі!

Аднойчы летам, у нядзелю,
Набіўшы півам рукзакі,
З суседам разам захацелі
Мы адпачыць каля ракі.

Пясчаны бераг і палатка,
Пад хвоямі суседаў «Додж».
Было б усё, здаецца, гладка,
Каб не лінуў знянацку дождж.

Жвір пад нагамі ўраз захліпаў,
Намок я ўшчэнт, з усіх бакоў.
Ды, паслізнуўшыся, рассыпаў
У зелле нашых чарвякоў.

На беразе агледзеў: вуда
Сарвалася, сплывае ў вір.
Бягу да сябра з перапуду,
Перашкаджае мокры жвір.

Сусед зашыўся у палатку,
Трасецца, быццам з «бадуна»:
Трапляе зверху дождж праз латкі,
І знізу мокра, бо без дна.

Касцёр развесці немагчыма –
Сухіх галінак, дроў няма.
Усё плыве перад вачыма...
Не адпачынак, а чума!

«Додж» не заводзіўся – з буксіра
Штурхалі, лаяліся ўслед.
Сягоння прызнаюся шчыра,
Што кляў тады ўвесь белы свет.

А дома я адпіўся чаем,
Сагрэўся добра, прапацеў...
Цяпер з усмешкай ўспамінаю
Той адпачынак на рацэ.

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*




**Яўген ХВАЛЕЙ**

## Мішка і Зінка



Гэта пара яшчэ тая...
Мужа Зінка зноў шукае
З тоўстым кіем у руцэ:
«Ў краме ён ці на рацэ?
Можа, у якой кабеты...
Мішка, хітры злыдзень, дзе ты?!»
Той смяецца: «Хай гукае,
Усё роўна ашукаю».
Па віно сходзіў цішком
Ды глыкае з сябруком.
Жонку ўбачыў — ў хату ходу
І ляжыць сабе калодай.
— Ах, ваўчыная ты шкура!
Дзе цябе насіла бура,
З кім намурзаўся, мазурык?
Пакарміў бы лепей курак.
— Дома быў я, Зінка, тут,
Пакуль спаў — адбыўся цуд.
«Палтэргейст» у нас пад бэлькай:
Стуль упала мне... бутэлька.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Руслана БОГУША.




Малюнак Алега ПАПОВА.

## Тры жаданні

*Прытча*

Начальнік і два яго работнікі пайшлі разам абедаць і знайшлі старую лямпу. Калі пацёрлі яе, то з'явіўся джын і сказаў:

— Звычайна я выконваю тры жаданні, таму кожны з вас можа загадаць па адным.

— Дазвольце мне, — гаворыць першы супрацоўнік. — Я хачу зараз апынуцца на Багамах і загараць на цёплым пясочку.

Бах! І ён кудысьці знік.

— Я! Я наступны! — закрычаў другі супрацоўнік. — Я хачу на Гаваі, у лепшую гасцініцу, якую там толькі можна знайсці.

Бах! І таксама знік.

— Зараз твая чарга, — звяртаецца джын да начальніка.

— Добра, я хачу, каб гэтыя два «курортнікі» былі на працы пасля абеду.

Мараль: заўсёды дай начальніку выказацца першым.

## Бібліятэкары жартуюць

### Анекдоты ад Алены Паўлаўны КАЛЕЙНІК,
загадчыцы бібліятэкі № 5 г. Мінска

Мая трэцяя жонка вельмі раўнівая... Увесь час даводзіцца ёй даказваць, што з першай і другой жонкай у мяне нічога не было!..

* * *

– Я на сваю цешчу нарадавацца не мог: па дробязях не піліць, размовы правільныя вядзе – пра аўтамабілі, пра рыбалку, пра спорт. І нават выпіць любіць. І толькі ўчора пільна прыгледзеўся... А гэта, аказваецца, не цешча, а цесць!

* * *

Паляўнічы выслухоўвае папрокі жонкі.
– Я ў цябе жыву горш за сабаку...
– Няўжо я абыходжуся з табой, як з сабакам?
– Горш. У яго ёсць футра, а ў мяне – няма.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 6 (1521), 2015 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.
Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Ганна КІСЛУШЧАНКА, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.
Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.
Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.
Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ
Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ
Падпісана ў друк 04.06.2015. Фармат 60х84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,45. Тыраж 1464 экз. Заказ .
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.



## Летнія анекдоты

– Чаму ў тваім садзе няма пудзіла?
– А навошта? Я і сам цэлы дзень дома.

☺ ☺ ☺

Госць звяртаецца да гаспадара гасцініцы:
– Ці можна мне паменшыць плату за нумар?
– Вы што! З такім цудоўным відам на мора...
– А калі я паабяцаю не глядзець у акно?

– Добра адпачыў у санаторыі?
– Цудоўна! Зусім як на працы: сядзіш, нічога не робіш і чакаеш абеду.

☺ ☺ ☺

– Што заканчваецца хутчэй, чым адпачынак?
– Адпускныя.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

# Бывайце здаровы...

Малюнкі Алега ПАПОВА







## Рыбацкія байкі




Малюнак Руслана БОГУША.




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Андрэя СІДАРЭЙКІ.



Малюнак
Аляксандра
ШМІДТА.




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

ЧЫТАЙЦЕ!

## У наступным нумары:

Верш Галіны НУПРЭЙЧЫК
*пра тых, каму хутка
прыйдзецца шукаць
«Віртуальныя харчы»*

Гісторыя Ганны АТРОШЧАНКІ
*«Афрыканскі матацыкліст»
пра праблемы набыцця
ахоўных шлемаў*

Рыфмаваны анекдот Анатоля ЗЭКАВА
*«Як трапіць у ДАІ?»*

***І многае-многае іншае!
Да сустрэчы!***

## *Падпішыся на «Вожык»!*

«Вожык» нам дорыць
настрой, весялосць,
У хатах ён сябар жаданы і госць.

Чытайце «Вожык», хлопцы і дзяўчаты,
На гумар ды сатыру ён багаты!

Як на «Вожык» падпішуся,
Маладзейшаю раблюся.

Выпішы «Вожык» – забудзь пра аптэкі:
Гумар заменіць найлепшыя лекі.

«Вожык» прагоніць самоту і стому,
Усмешкі заўсёды да твару любому.

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны**
(для жыхароў
сельскай мясцовасці:
райцэнтры і населеныя
пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства
культуры, Міністэрства
адукацыі) — **01381.**

**Падпісацца
можна ў любым аддзяленні
сувязі РУП «Белпошта»,
у кіёсках РУП «Белсаюздрук».
А яшчэ — па інтэрнэце
(з дапамогай пластыкавых элект-
ронных картак, электронных грошай)
ці праз аўтаматызаваную сістэму
Адзінай разлікова-інфармацыйнай
прасторы (АРІП).**

**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ
2015 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 29100 рублёў,
індэкс 01380, цана 23200 рублёў,
індэкс 748442, цана 84600 рублёў,
індэкс 01381, цана 66700 рублёў.




**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

9 770132 595002 15006